Альбом склалі і аформілі:
Паўлава К. І., Анісовіч А. Л., Ступіна Г. А.,
Гуткоўскі С. А., Галаўнін М. Г.

Адказны рэдактар Мацюшка В. Ф.

Тэхнічны рэдактар Каваленка В. В.

AT 01914. Падпісана да друку 26.1-55. Папера 84x62 $^{1}/_{4}$. Друк. арк. 36.
Тыраж 5000 экз. Заказ 519.

Літаграфія г. Гродна, вул. Будзённага, 56.

# БЕЛАРУСКІ АРНАМЕНТ

„. . . Самым высокім відам мастацтва, самым таленавітым, самым геніяльным з'яўляецца народнае мастацтва, г. зн. тое, што ўвабрана народам, захавана, што народ пранёс праз стагоддзі“.

(Калінін М. І. Артыкулы і прамовы, 1936 г., стар. 212).

Правадыр і настаўнік працоўных свету В. І. Ленін указваў на вялікую ролю культурнай спадчыны ў справе стварэння совецкай культуры. „Пролетарская культура,— гаварыў ён на III з'ездзе комсамола,—павінна з'явіцца законамерным развіццём тых запасаў ведаў, якія чалавецтва выпрацавала пад прыгнётам капіталістычнага грамадства, памешчыцкага грамадства, чыноўніцкага грамадства“.

Культурная спадчына з'яўляецца выдатнай школай майстроў совецкага мастацтва, невычарпальнай крыніцай ведаў і вопыту, накопленага народам на працягу стагоддзяў. Без выкарыстання культурнай спадчыны нельга пабудаваць соцыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме совецкай культуры.

Адзначаючы вялікае значэнне мастацкай спадчыны ў справе развіцця беларускага совецкага мастацтва, неабходна падкрэсліць, што совецкая культура ў сваім развіцці апіраецца толькі на прагрэсіўны дэмакратычны напрамак у культуры мінулага, на тыя яе элементы, якія садзейнічалі вызваленчай барацьбе беларускага народа, ўмацоўвалі нацыянальную самасвядомасць, узмацнялі дружалюбныя сувязі з вялікім рускім народам, садзейнічалі паляпшэнню матэрыяльнага добрабыту народа, рухалі яго культуру па шляху прагрэсу.

Вялікае месца ў беларускай культуры мінулага належыць народнай мастацкай творчасці.

Нягледзячы на цяжкі соцыяльны і нацыянальны прыгнёт працоўны беларускі народ стварыў выдатнае мастацтва. Сваю цяжкую працу, падзеі ў сваім жыцці ён апяваў у песні і музыцы. Прылады працы, прадметы хатняга ўжытку і адзенне ўпрыгожваў арнаментам. Сваю хату афармляў living рознымі арнаментаванымі дэталямі. Ён ствараў грандыёзныя палацавыя ансамблі для прадстаўнікоў пануючага класа і ўпрыгожваў іх скульптурнай лепкай, разьбой, керамікай, жывапісам і арнаментам.

Вялікае значэнне ў справе афармлення прадметаў народнай творчасці мае арнамент. У адрозненне ад іншых відаў мастацтва, напрыклад архітэктуры, якая існуе самастойна, арнамент існаваць самастойна не можа. Ён заўсёды служыць мэтам упрыгожвання або афармлення прадметаў ляпной, разной на дрэве і жывапіснай архітэктуры і прадметаў хатняга ўжытку; арнамент ткацтва і вышыўкі—адзення; графічны арнамент—кніг, плакатаў, лозунгаў і г. д.

Арнамент розных відаў развіваецца ў цеснай залежнасці пры пастаянным запазычванні форм і матываў аднаго віду арнамента ў другога. У гісторыі беларускага арнамента падобныя выпадкі запазычвання сустракаюцца даволі часта. Напрыклад, асобныя арнаментальныя матывы слуцкіх паясоў былі запазычаны ад арнамента беларускага народнага ткацтва і кніжнай графікі. Яркім прыкладам узаемасувязі арнаментальных матываў розных відаў мастацтва з'яўляецца афармленне беларускай совецкай друкаванай прадукцыі (кніг, часопісаў, плакатаў і лозунгаў) народнымі арнаментальнымі матывамі ткацтва і вышыўкі.

Характэрнай асаблівасцю беларускага арнамента з'яўляецца кампазіцыйная закончанасць, дакладнасць пабудовы, багацтва і гарманічнасць маляўнічай гамы, тонкае вар'іраванне адных і тых-жа матываў у залежнасці ад прызначэння рэчы, стварэнне абмежаванымі сродкамі рознастайных колеравых і графічных кампазіцыйных спалучэнняў. Гэта дасягаецца ўмелым падборам арнаментальных матываў, групаваннем розных па форме, велічыні і колеру фігур, рытмічным паўтарэннем адных і тых-жа або некалькі відазмененых дэталей. Вялікае значэнне пры гэтым мае акцэнтыроўка пэўных месц арнамента найбольш выразнымі геаметрычнымі фігурамі і колернымі спалучэннямі, якія аб'ядноўваюць вакол сябе менш выразныя арнаментальныя матывы.

Беларускі арнамент дзеліцца на тры асноўныя віды: геаметрычны, арнаментыка якога складваецца з прамых ліній, прамавугольнікаў, квадратаў, ромбаў, трохвугольнікаў і іншых геаметрычных фігур; раслінны, скампанаваны з малюнкаў парасткаў раслін, лісця, кветак, пладоў; жывёльны, створаны з малюнкаў жывёл і птушак.

Арнамент цесна звязан з матэрыялам, на які ён наносіцца; для кожнага віду прадметаў, будзь гэта адзенне ці кераміка, будынак ці кніга, характэрны свае арнаментальныя матывы, свае стылістычныя асаблівасці. Гэтая асаблівасць арнамента мае вялікае значэнне, яна склалася ў працэсе яго гістарычнага развіцця і з'явілася вынікам цеснай сувязі арнамента з упрыгожваемай ім рэччу.

Прадметы мастацкага ткацтва і вышыўкі па свайму прызначэнню і характару ўпрыгожвання дзеляцца на два віды: тэматычныя творы (габелены і партрэты) і вырабы, упрыгожаныя арнаментам (адзенне, абрусы, ручнікі, дываны, пасцілкі і г. д.).

Па арнаментыроўцы і каларыту ткацкі і вышывальны арнаменты маюць многа агульных рысаў. У радзе выпадкаў абодва віды арнамента дапаўняюць адзін другога. Разам з тым паміж гэтымі відамі арнамента ёсць істотная розніца.

Асноўным элементам вышыўкі з'яўляецца лінія, match рознастайная па свайму начартанню ў залежнасці ад прымяняемага ў даным выпадку шва—крыжам, квадратам, насцілам. Гэтыя лініі ўтвараюць контуры фігур, палосы, а таксама геаметрычныя фігуры: квадраты, ромбы, прамавугольнікі, крыжы, зігзагі, ломаныя лініі, многавугольнікі і г. д. Калі ў мастацкім ткацтве арнаментальныя матывы складаюцца з геаметрычных, у пераважнасці прамавугольных фігур, то ў вышыўцы, дзякуючы шырокай магчымасці вар'іравання шва, адкрываецца магчымасць для стварэння больш складаных арнаментальных спляценняў і фігур.

Акрамя таго, лінія (шво) дае магчымасць больш мякка звязваць пераходы адной фарбы або фігуры да другой, больш свабодна вар'іраваць адны і тыя-ж арнаментальныя матывы і кампазіцыйныя спалучэнні. Шво, якое складаецца з адрэзкаў прамых ліній рознастайнага напрамку (гарызантальных, вертыкальных і двух дыяганальных), дае магчымасць ствараць цудоўныя па сваёй прыгажосці арнаментальныя матывы з незлічонай колькасцю варыяцый.

Тэхніка мастацкага ткацтва таксама даволі рознастайная. У Беларусі найбольш шырокае распаўсюджанне маюць браная і многарамізная тэхніка ткацтва. У абодвух выпадках узоры атрымліваюцца геаметрычнай формы, скампанаваныя з квадрата, прамавугольніка, трохвугольніка, крыжа, ромба і лініі. З гэтых прасцейшых фігур і складваюцца арнаментальныя ткацкія матывы. У адным выпадку гэтыя фігуры ў розных камбінацыях запаўняюць усю паверхню палатна. Паўтараючыся праз пэўныя прамежкі, яны ствараюць роўнамерны рытм для ўсёй паверхні палатна. У другім выпадку гэтыя геаметрычныя формы групуюцца ў гнёзды з цэнтральнай плямай. Больш складаныя мастацкія вырабы маюць па некалькі такіх гнёздаў. Як і ў першым выпадку, гэтыя матывы перыядычна паўтараюцца з той толькі розніцай, што ў першым выпадку арнамент стварaецца з прасцейшых геаметрычных элементаў, у другім — са складаных па сваёй кампазіцыйнай будове фігур.

Вялікае значэнне ў стварэнні ткацкага арнамента мае колер. Групоўка геаметрычных фігур, афарбаваных у розныя колеры, дае магчымасць ствараць выдатныя па каларыту арнаментаваныя тканіны. Колеры, прымяняемыя ў народным ткацтве, не маюць танальных пераходаў. Напрыклад, чырвоны колер адной і той-жа фігуры ва ўсіх паўтарэннях, незалежна ад таго, з якім колерам ён мяжуе, заўсёды мае адны і тыя-ж адценні. Гэтая асаблівасць ткацкага арнамента, здавалася-б, павінна прывесці да рэзкасці і стракатасці. На самай-жа справе гэта не так. Народныя майстры ўмеюць падбіраць такія колеры, так іх скампанаваць, што яны дапаўняюць адзін другога, узмацняюць асноўныя або аб'ёдноўваюць сабой суседнія колеры. Дзякуючы гэтаму ў колерных адносінах беларускі ткацкі арнамент выглядае танальна насычаным, гарманічным па свайму гучанню.

Шырокае распаўсюджанне ў Беларусі атрымалі слуцкія паясы. Выраблялiся яны ў розных месцах Беларусі—у Слуцку, Нясвіжы і Ружанах. Стваралiся слуцкія паясы прыгоннымі сялянамі, асвоіўшымі ўжо ў хатніх умовах вытворчасць мастацкіх тканых і вышыўных вырабаў. Гэтая акалічнасць аказала вялікі ўплыў на тэхніку вытворчасці і на мастацкае афармленне слуцкіх паясоў. Народныя майстры ўносілі ў іх арнамент матывы, характэрныя для беларускага народнага мастацтва або бачаныя імі ў акружаючай беларускай прыродзе. Імкненне народных майстроў уносіць у арнамент слуцкіх паясоў матывы і ўзоры, любімыя і зразумелыя ім, уласцівыя народнай дэкаратыўнай творчасці, апеты беларускім паэтам Максімам Багдановічам у вершы „Слуцкія ткачыхі":

> І тчэ, забыўшыся, рука
> Замiж персідскага ўзору
> Цвяток радзімы васілька.

Многія з гэтых майстроў, як, напрыклад, Дубіцкі і Канановіч, атрымалі шырокую вядомасць, а асобныя з іх, як Васіль Барсук, працавалі ў якасці галоўных майстроў Слуцкай фабрыкі паясоў. Арнамент слуцкіх паясоў, як правіла, раслінны і складаецца з ізабражэння парасткаў кветак і лісцяў розных раслін. Асобыя з іх блізкія да беларускіх ткацкіх геаметрычных матываў, а таксама да беларускага кніжнага графічнага арнамента. У арнаменце слуцкіх паясоў шырока выкарыстоўваюцца беларускія раслінныя формы: васількі, незабудкі, дубовыя лісты, жалуды і інш. Ткаліся слуцкія паясы з шоўкавых і часткова залатых і сярэбраных нітак. Высокамастацкія і тонкія па майстэрству слуцкія паясы атрымалі сусветную вядомасць. Яны захоўваюцца ў многіх музеях Расіі, Беларусі, Украіны, Літвы і ў краінах Заходняй Еўропы.

У многіх населеных месцах Беларусі існавалі майстэрні па вытворчасці дываноў і габеленаў. Найбольш вядомымі з іх былі фабрыкі габеленаў у мястэчку Карэлічы і Нясвіжы, фабрыка дываноў у Альбертыне Гродзенскай вобласці, пазументная фабрыка ў Дуброўне, арганізаваная князем Г. Пацёмкіным. На гэтых фабрыках працавалі прыгонныя сяляне і сялянкі. Многія з іх набывалі высокую кваліфікацыю і былі кіраўнікамі дывановай і габеленнай вытворчасці.

★ ★ ★

Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэвалюцыя адкрыла неабмежаваныя магчымасці для развіцця народнай беларускай творчасці. Змяніліся адносіны да народнага мастацтва. Буржуазія, памешчыкі і царскія чыноўнікі з пагардай глядзелі на народ і яго мастацкую творчасць, па-варварску эксплуатавалі народных майстроў. Толькі ва ўмовах совецкай улады народная творчасць была ацэнена па дастоінству і стала разглядацца як адзін з важнейшых відаў культурнай дзейнасці. Партыя і ўрад удзяляюць выключна вялікую ўвагу народнай творчасці, аказваюць ёй паўсядзённую дапамогу. Выключна многа для развіцця народнага мастацтва зрабілі В. І. Ленін, І. В. Сталін, Н. К. Крупская,

М. І. Калінін і А. М. Горкі. Сваім паўсядзённым кіраўніцтвам, парадай і практычнай дапамогай яны садзейнічалі хуткаму яе развіццю.

Дзякуючы гэтаму ўжо з першых дзён існавання совецкай улады ўсюды пачалі ўзнікаць гурткі народнай творчасці: тэатральныя, музыкальныя, танцавальныя, разьбы па дрэву, жывапісныя, скульптурныя, вышыўкі і ткацтва. Было праведзена аб'еднанне адзіночак народных майстроў у арцелі. Для паказу твораў народнай творчасці ўсюды пачалі наладжвацца выстаўкі для выяўлення лепшых майстроў, арганізоўваліся конкурсы. Усё гэта ўзняло народную творчасць на больш высокую ступень, адкрыла перад ёй найшырэйшыя магчымасці ўдасканальвання і росту.

Калі ў дарэволюцыйнай народнай творчасці працоўны народ выражаў свае мары аб шчасці і свабодзе, укладваючы ў яе свае імкненні да лепшага і свабоднага жыцця, то совецкае народнае мастацтва адлюстроўвае сабой ажыццяўленне гэтай мары ў рэальнай рэчаіснасці. У ёй апяваецца шчаслівае і свабоднае жыццё совецкага чалавека, яго барацьба за пабудову комуністычнага грамадства, за ўмацаванне абароназдольнасці нашай краіны. Народная творчасць Совецкай Беларусі прысвячаецца стварэнню вобразаў правадыроў і кіраўнікоў совецкага народа, перадавікам вытворчасці, героям Вялікай Айчыннай вайны і Героям Соцыялістычнай Працы. Яна адлюстроўвае героіку нашых дзён, совецкі патрыятызм і гераізм нашага народа.

Асноўную ўвагу ў сучасны момант мастацкія арцелі Белпромсовета ўдзяляюць стварэнню тканых і вышываных прадметаў хатняга ўжытку (пасцілак, абрусоў, дываноў) і, перш за ўсё, мужчынскага і жаночага адзення. У гэтым-жа напрамку праводзіць сваю работу эксперыментальная лабараторыя Белпромсовета.

З паляпшэннем матэрыяльнага дабрабыту, павышэннем культурнага ўзроўню растуць патрабаванні працоўных да адзення. Адзенне совецкіх грамадзян павінна быць, перш за ўсё, зручным для работы і адпачынку і ў той-жа час яно павінна быць прыемным на выгляд, прыгожым. Добра сшыты, упрыгожаны народным арнаментам касцюм па сваёй прыгажосці і высокароднасці абрысаў не ўступае касцюмам з дарагой фабрычнай матэрыі. Аднак значэнне народнага арнамента гэтым не абмяжоўваецца.

Высокамастацкі па выкананню, тонкі па майстэрству, багаты па кампазіцыйных спалучэннях беларускі народны ткацкі і вышывальны арнамент мае выключна вялікае значэнне не толькі для ўпрыгожання адзення, але і для афармлення прадметаў хатняга ўжытку, твораў мастацтва і друкаванай прадукцыі. Ім упрыгожваюцца партрэты правадыра совецкага народа В. І. Леніна і яго саратнікаў, выданні беларускіх народных паэтаў Янкі Купалы, Якуба Коласа і другіх пісьменнікаў Беларусі, плакаты, лозунгі, уноў пабудаваныя архітэктурныя збудаванні. Народным беларускім арнаментам упрыгожан флаг Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Нягледзячы, аднак, на яго такое вялікае значэнне, да гэтага часу яшчэ не напісана ні аднаго даследвання, не выдана ілюстраванага выдання, у якіх былі-б сабраны лепшыя ўзоры народнага беларускага арнамента і якія маглі-б служыць падсобным матэрыялам для мастакоў, архітэктараў, скульптараў і графікаў, для майстроў мастацка-кааператыўных арцелей, а таксама фабрык і заводаў, якія выпускаюць прадметы хатняга ўжытку, мануфактуру і прадметы ўпрыгожання, і, нарэшце, для розных відаў самадзейнай народнай творчасці.

Мэта гэтага выдання—паказаць лепшыя ўзоры беларускага народнага арнамента, зрабіць яго больш даступным для работнікаў розных прафесій. Улічваючы, што найбольш шырокае распаўсюджанне ў Совецкай Беларусі атрымаў ткацкі і вышывальны геаметрычны арнамент, у прапануемым альбоме асноўная ўвага ўдзелена геаметрычнаму народнаму арнаменту ткацтва і вышыўкі.

Выпускаючы ў свет альбом, Белпромсовет не ставіць перад сабой навукова-даследчай задачы. Альбом мае чыста практычную мэту дапамагчы работнікам розных прафесій азнаёміцца і больш глыбока вывучыць народны беларускі арнамент.

Выданне альбома беларускага арнамента будзе садзейнічаць паляпшэнню вытворчасці прадметаў мастацкай прамысловасці, больш глыбокаму асваенню вопыту народных майстроў у справе стварэння мастацкіх вырабаў.

Асвайваючы і выкарыстоўваючы народную творчасць, мы ў той-жа час павінны развіваць яе. А развіваць народнае мастацтва—гэта значыць не толькі ўдасканальваць яго майстэрства, але і ўзбагачаць яго новымі арнаментальнымі матывамі, совецкімі эмблемамі, якія адлюстроўваюць працоўныя подзвігі совецкага народа.

**Доктар мастацтвазнаўчых навук**

**М. С. КАЦАР.**

# ЗМЕСТ

# НАРОДНАЕ ТКАЦТВА



# НАРОДНАЯ ВЫШЫЎКА

| Стар. | мал. | |
|---|---|---|
| 26. | 1 | Арнамент для мужчынскай сарочкі. |
| | 2,3 | » » плацця падлеткавага. |
| | 4 | » » ручніка. |
| 27. | 1 | » » блузкі жаночай. |
| | 2 | » » ручніка. |
| 28. | 1,2,3 | » » плацця дзіцячага. |
| | 4 | » » ручніка. |
| 29. | 1 | » » плацця жаночага. |
| | 2 | » » ручніка. |
| 30. | 1,2,3 | » » блузкі жаночай. |
| | 4 | » » фартуха. |
| 31. | 1,2,3,4,5 | » » плацця жаночага. |
| 32. | 1,3,4 | » » ручніка. |
| | 2 | » » плацця дзіцячага. |
| 33. | 1,2,3,4 | Арнамент для мужчынскай сарочкі. |

| Стар. | мал. | |
|---|---|---|
| 34. | 1,2,3 | Арнамент для жаночага плацця. |
| 35. | 1,2,3 | » » мужчынскай сарочкі. |
| | 4 | » » плацця дзіцячага. |
| | 5 | » » плацця жаночага. |
| 36. | 1 | » » » » |
| | 2 | » » ручніка. |
| 37. | 1 | » » плацця жаночага. |
| | 2 | » » ручніка. |
| 38. | 1 | » » мужчынскай сарочкі. |
| | 2 | » » блузкі жаночай. |
| | 3 | » » ручніка. |
| 39. | 1,2 | » » блузкі жаночай. |
| | 3 | » » фартуха. |
| 40. | 1 | » » ручніка. |
| 41. | 1 | » » » |

# ВЫШЫЎКА,

## РАСПРАЦАВАНАЯ ЛАБАРАТОРЫЯЙ БЕЛПРОМСОВЕТА

| Стар. | мал. | |
|---|---|---|
| 1. | 1,2 | Арнамент для жаночага плацця. |
| 2. | 1 | » » мужчынскай сарочкі. |
| | 2,3 | » » жаночага плацця. |
| 3. | 1,2 | » » » » |
| 4. | 1,2,3,4,5 | » » мужчынскай сарочкі. |
| 5. | 1,2,3 | » » » » |
| | 4,5,6,7 | » » жаночага плацця. |
| 6. | 1,2,3 | » » мужчынскай сарочкі. |
| | 4 | » » жаночага плацця. |
| 7. | 1,2 | » » дзяіцячай сарочкі. |
| | 3 | » » жаночага плацця. |
| | 4 | » » мужчынскай сарочкі. |
| 8. | 1,2,3,4,5 | » » » » |
| 9. | 1,3,6,8 | » » » » |
| | 2 | » » дзіцячага плацця. |
| | 4 | » » жаночай блузкі. |
| | 5,7 | » » жаночага плацця. |
| 10. | 1,2,3 | » » мужчынскай сарочкі. |
| | 4 | » » жаночага плацця. |
| 11. | 1,2 | » » жаночай блузкі. |
| | 3,5 | » » мужчынскай сарочкі. |
| | 4 | » » дзіцячага плацця. |
| 12. | 1,7 | » » жаночага плацця. |
| | 2,4,6 | » » мужчынскай сарочкі. |
| | 3 | » » жаночага паліто. |
| | 5 | » » хлапчуковай сарочкі. |
| 13. | 1 | Арнамент для дзіцячага плацця. |
| | 2,3,4 | » » мужчынскай сарочкі. |
| 14. | 1,2,3,4 | » » » » |
| | 5 | » » дзіцячага плацця. |
| 15. | 1,2,3,4 | » » жаночага плацця. |
| 16. | 1 | » » жаночай блузкі. |
| | 2,3 | » » мужчынскай сарочкі. |
| 17. | 1,2 | » » жаночага паліто. |
| 18. | 1 | » » жаночай блузкі. |
| | 2 | » » жаночага плацця. |
| 19. | 1,2,3,4 | » » » » |
| 20. | 1 | » » дзіцячай сарочкі. |
| | 2,3,4,5 | » » мужчынскай сарочкі. |

| Стар. | мал. | |
|---|---|---|
| 21. | 1 | Арнамент для дзіцячага плацця. |
| | 2 | » » мужчынскай сарочкі. |
| | 3 | » » жаночага плацця. |
| 22. | 1,2,3,4 | » » мужчынскай сарочкі. |
| 23. | 1,2 | » » жаночага плацця. |
| 24. | 1,2,3 | » » мужчынскай сарочкі. |
| | 4 | » » ручніка. |
| 25. | 1,2,3 | » » жаночага плацця. |
| 26. | 1,4 | » » мужчынскай сарочкі. |
| | 2,3 | » » жаночага плацця. |
| 27. | 1 | » » ручніка. |
| | 2 | » » жаночага плацця. |
| 28. | 1 | » » жаночай блузкі. |
| | 2,3,4 | » » мужчынскай сарочкі. |
| | 5 | » » жаночага плацця. |
| 29. | 1 | » » ручніка. |
| | 2 | » » жаночай блузкі. |
| 30. | 1 | Арнамент для жаночага плацця. |
| | 2 | » » жаночай блузкі. |
| | 3 | » » ручніка. |
| 31. | 1 | » » дзіцячай сарочкі. |
| | 2,3 | » » жаночага плацця. |
| 32. | 1,4 | » » жаночай блузкі. |
| | 5,6 | » » дзіцячай сарочкі. |
| | 2,3 | » » мужчынскай сарочкі. |
| 33. | 1 | » » » » |
| | 2,3 | » » ручніка. |
| 34. | 1,2,4,5 | » » мужчынскай сарочкі. |
| | 3,6,7 | » » жаночага плацця. |
| 35. | 1 | » » мужчынскай сарочкі. |
| | 2,3,4 | » » жаночага плацця. |
| 36. | 1 | » » дзіцячай сарочкі. |
| | 4 | » » мужчынскай сарочкі. |
| | 2,3,5 | » » жаночага плацця. |
| 37. | 1 | » » мужчынскай сарочкі. |
| | 2,3 | » » жаночага плацця. |
| 38. | 1,2 | » » жаночай блузкі. |
| | 3 | » » жаночага плацця. |

# СЛУЦКІЯ ПАЯСЫ

| Стар. | |
|---|---|
| 3 1 да 5 | Слуцкія паясы. |
| 6 | Фрагменты слуцкіх паясоў. |

| Стар. | |
|---|---|
| 7,8,9 | Слуцкія паясы. |
| 10 | Фрагменты слуцкіх паясоў. |

